647_632.qxd 12/27/2019 3:57 AM Page 1 (3,2)




# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 1 (647)**
**Студзень 2020 г.**




## Радасных Калядаў і шчасьлівага Новага году!




## Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня"!

Разам са студзеньскім нумарам "Вестак і Паведамленьняў" кожны падпісчык атрымае **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2020 год**. Каляндар выдадзены абмежаваным накладам, але калі вы жадаеце набыць дадатковыя асобнікі каляндара, альбо ня ёсьць падпісчыкам бюлетэня, але хацелі б мець такі каляндар, то яго можна замовіць, напісаўшы ў рэдакцыю на емэйл адрас ***viestki@mail.com*** альбо наведаўшы старонку ***e-krama.com***

Кошт аднаго асобніка з улікам паштовай перасылкі **$10**.



# Акцыі ў падтрымку незалежнасьці Беларусі

Апошнім часам у Нью-Ёрку прайшоў шэраг акцыяў, прысьвечаных абароне незалежнасьці Беларусі ад чарговай спробы падступнага скасаваньня сувэрэнітэту краіны імпэрскімі шавіністычнымі коламі Расеі, гэтым разам пад маркаю правядзеньня "паглыбленай інтэграцыі" ў рамках дамовы пра так званую "саюзную дзяржаву". Безумоўна, лучнасьць невялікай Беларусі зь вялізнай Расеяй ужо паказвае на няроўнасьць і перакос убок мацнейшай краіны. Калі пры гэтым улічыць, што Лукашэнка абяцаў "паўзьці ў Маскву на каленях", што ён ня бачыць розьніцы паміж расейцамі й беларусамі, і ўсе 25 год пры ўладзе ён ставіў сувэрэнітэт Беларусі на кон у гульні з Расеяй за энэрганосьбіты і датацыі – пытаньне пагрозы незалежнасьці Беларусі стаіць вельмі востра. Таму Згуртаваньне "Пагоня" разам з БАЗА ладзілі ў Нью-Ёрку шэраг акцыяў, на якіх заяўлялася аб падтрымцы незалежнасьці Беларусі й адмаўленьні ад так званай "інтэграцыі" з Расеяй – фактычна пасткі, у якую загнаў сам сябе рэжым Лукашэнкі.




30 лістапада беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў зладзілі мітынг каля штаб-кватэры ААН на Першай авэню на Мангэтане, які фактычна стаў першым у чарадзе мітынгаў і пратэстных акцыяў па ўсім сьвеце ў

***заканчэньне на бачыне 3***

# Сьнежаньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 14 сьнежня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка праспавёў пра нядаўна прайшоўшыя акцыі беларускай грамады Нью-Ёрку і ваколіцаў супраць так званай "паглыбленай інтэграцыі" Беларусі й Расеі, што адбыліся каля штаб-кватэры ААН і каля расейскага кансуляту ў Нью-Ёрку. Прамоўца таксама распавёў пра маючыя адбыцца акцыі ў час прымеркаванага падпісаньня дамоваў паміж рэжымамі Лукашэнкі й Пуціна 20-21 сьнежня, і заклікаў прысутных прыняць удзел у акцыях і наагул сачыць за аб'явамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку для апэратыўнай інфармацыі.

Затым сп. Зайка прадставіў прысутным госьця "Пагоні" – беларускага пісьменьніка гэбрайскага паходжаньня сп. Уладзімера Рабіновіча, які піша ў стылі кароткага апавяданьня на разнастайную тэматыку, якая ў значнай ступені сугучная думкам сябраў "Пагоні", або можа выклікаць цікавасьць сваім зьместам. Працы Ўладзімера Рабіновіча ўлучаюць такія тэмы як эмігранцкае жыцьцё ў Амэрыцы, прызвычайваньне да амэрыканскіх рэаліяў і сучасны стан людзей, што прыехалі дзясяткі год таму. Таксама значную частку творчасьці займаюць апавяданьні, зьвязаныя зь Менскам – родным горадам Уладзімера Рабіновіча, з асаблівасьцямі жыцьця ў савецкія часы, у прыватнасьці з эндэмічным антысэмітызмам сярод беларусаў, якія часта лічаць сябе талерантнымі й найменш здатнымі на варажнечу супраць суседзяў-гэбраяў. Асобнаю важнаю тэмаю праз творчасьць Уладзімера Рабіновіча праходзяць падзеі Галакосту і Другой сусьветнай вайны ў Беларусі, адносіны паміж беларусамі й гэбраямі, трагічны розгалас тых часоў, адлюстраваны ў досьведзе людзей, народжаных ужо пасьля вайны. Таксама чытачы знойдуць сярод твораў апавяданьні турэмныя – бо келіх гэты не абмінуў аўтара ў савецкія часы, калі бязьлітасна каралася прадпрыймальніцкая дзейнасьць. Стылёва творчы набытак Уладзімера Рабіновіча нагадвае пэўныя рысы й перагукаецца з паасобнымі творамі расейскіх пісьменьнікаў Ісака Бабеля, Андрэя Платонава, Юза Аляшкоўскага, ізраільца Этгара Керэта і амэрыканца Рэйманда Карвэра. Пісьменьнік зьяўляецца аўтарам двух кнігаў, "Рабіновіч, як табе ня сорамна" і "Па вяровачцы бяжыць", і мае старонку ў Фэйсбуку, на якую падпісаныя больш за 4 тысячы чалавек.

Напачатку сваёй гутаркі пісьменьнік распавёў пра сябе, што нарадзіўся ў Менску, вучыўся завочна ў пэдінстытуце, служыў у войску, адседзеў год у турме на вул. Валадарскага і пасьля правёў паўтара гады на высылцы ў Мядзелі за прадпрыймальніцкую дзейнасьць (рабілі гуказапісы з заходніх кружэлак). "Павел Якубовіч напісаў пра гэта артыкул "Чорныя дыскі" ў газэце "Знамя Юности" 14 жніўня 1980 г. Наглядчык у турме сказаў: "Цябе расстраляюць". У 1987 годзе выехаў у ЗША, працаваў у Нью-Ёрку таксістам: "Я набыў мэдалён пад вялікі працэнт крэдыту і пад канец купіў фактычна два мэдалёны – адзін для сябе і другі для кампаніі, што іх прадае". Адкрыў з братамі краму на Брайтане, якая займалася продажам кружэлак – своеасаблівы працяг дзейнасьці, якую пачаў яшчэ ў Менску. Потым, калі выйшаў у 2014 годзе на пэнсію, стаў пісаць у Фэйсбуку, "і так яно пайшло, ужо апублікавана больш за 600 апавяданьняў".

Затым Уладзімер Рабіновіч прачытаў шэраг сваіх апавяданьняў. Апавяданьні закранаалі тэмы, што характэрныя для большасьці твораў – міжчалавечыя адносіны ў крызісных сытуацыях, антысэмітызм у Беларусі, як выжыць і застацца чалавекам у турме, як знайсьці сваё месца ў новай краіне. Некаторыя зь твораў улучалі нецэнзурныя словы. Пасьля сп. У. Рабіновіч казаў аўтару гэтых радкоў, што "...ня варта было рабіць гэтае чытаньне! Ня трэба гэта людзям. Сядзелі з каменнымі тварамі, ніякай рэакцыі". Аргумэнты пра тое, што гэта мог быць шок ад некаторых апавяданьняў, або што беларусы наагул ня самая эмацыйная нацыя, не спрацоўвалі. Тым не менш, на думку, ізноў жа, аўтара гэтых радкоў, публіка была зацікаўленая, задавалі пытаньні, цікаваліся далейшым лёсам узгаданых у апавяданьнях пэрсанажаў. Пыталіся пра тое, як аўтар пачаў пісаць, якія пісьменьнікі аказалі ўплыў на творчасьць, дзе знаходзіцца Севастопальскі парк у Менску, і чаму ён піша менавіта ў фармаце кароткага апавяданьня. Адбылася нават невялікая дыскусія пра творчасьць Аркадзя Гайдара і Міхаіла Велера.



*Віталь Зайка і Ўладзімер Рабіновіч*

Трэба адзначыць, што на сустрэчы з Уладзімірам Рабіновічам прысутнічала толькі каля 15 чалавек, што нетыпова для сходаў "Пагоні", на якія звычайна зьбіраецца значна больш людзей – пасьля былі нават скаргі, чаму не зрабілі асобнага анонсу пра сустрэчу зь пісьменьнікам. У кожным разе думаецца, што сустрэчы з творчымі людзямі на сходах "Пагоні" мусяць быць прадоўжаныя.

**Віталь ЗАЙКА**

# Ушанаваньне памяці слуцкіх змагароў у Нью-Джэрзі

У нядзелю, 8 сьнежня 2019 году ў Нью-Джэрзі прайшоў шэраг імпрэзаў, прысьвечаных Дню Герояў і 99-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну. У царкве Сьв. Маці Божае Жыровіцкае БАПЦ у Гайлэнд-Парку была адслужаная паніхіда за душы змагароў Слуцкага Збройнага Чыну, што палеглі абараняючы Бацькаўшчыну ад бальшавіцкай навалы з усходу.

Затым прадстаўнікі БАЗ "Пагоня" і БАЗА з аддзелаў у Нью-Джэрзі (сп. Юрка Азарка) і ў Нью-Ёрку (сп. Сяргей Кудзеліч) наведалі беларускія могілкі ў Іст-Брансўіку і ўсклалі вянок да помніка Беларускім Героям, і аддалі даніну памяці ля магілы слуцкага змагара а. Хведара Данілюка.

Затым удзельнікі ўшанаваньня наведалі мястэчка Саўт-Рывэр, дзе на пляцы пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай адбылася цырымонія закладаньня Алеі ў гонар Беларускіх Герояў. Удзельнікі імпрэзы наведалі таксама помнік Беларускім Героям у Саўт-Рывэры, што быў нядаўна адноўлены з дапамогай маладзейшага пакаленьня беларускай іміграцыі, і беларускія могілкі ў Саўт-Рывары, дзе таксама спачываюць некалькі ўдзельнікаў Слукага Збройнага Чыну.

**Віталь ЗАЙКА**






*Помнікі Беларускім Героям у Саўт-Рывэры і Нью-Брасўіку.*

## Акцыі ў падтрымку незалежнасьці

*заканчэньне з бачыны 1*

падтрымку незалежнасьці Беларусі. На пляцы перад гмахам ААН сабраліся больш як сто чалавек з нацыянальнымі беларускімі сьцягамі і плякатамі супраць паглынаньня Беларусі Расеяй: "Integration = Occupation", "Belarus is non Russia!", "Belarus is not for sale!", "Hands off Belarus". Мінакам раздавалі ўлёткі пра мэты акцыі. З кароткімі прамовамі выступілі сп. сп. Віталь Зайка, Валер Мінец, Сяржук Сай. Затым удзельнікі акцыі прайшліся па пляцы, скандуючы лёзунгі "No to occupation", "Belarus – YES! Lukashenka – NO!", "Hands off Belarus", "Жыве Беларусь!".

У нядзелю, 8 сьнежня, у дзень заплянаванага вялікага мітынгу ў патрымку незалежнасьці Беларусі ў Менску, суполка "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" зладзіла мітынг перад консулятам Расеі на Мангэтане. Імпрэза доўжылася некалькі гадзінаў, гучэлі прамовы і лёзунгі супраць "інтэграцыі" і пагрозы сувэрэнітэту Беларусі, лунaлі бел-чырвона-белыя сьцягі.

Чарговая сумесная акцыя Згуртаваньня "Пагоня" і БАЗА з удзелам групы "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" прайшла 15 сьнежня на Калюмбус-цыркль каля будынку, дзе знаходзіцца тэлекампанія Сі-Эн-Эн, і калёны-статуі ў гонар першаадкрывальніка Амэрыкі. Удзельнікі акцыі трымалі плякаты супраць інтэграцыі з Расеяй і беларускія нацыянальныя сьцягі. З прамовамі перад прысутнымі выступілі сп. сп. Віталь Зайка і Валер Мінец. Было падкрэсьлена, што неабходная інфармацыйная падтрымка, каб амэрыканскія мэдыі больш інфармавалі пра становішча ў Беларусі і пагрозу ад Расеі, якая штогод падвышаецца і можа неўзабаве пераўтварыцца ў асноўную праблему для ЗША. Удзельнікі акцыі выгукалі супраць расейскага імпэрыялізму і ў падтрымку беларускай незалежнасьці.




У чэцьвер, 19 сьнежня, групай беларускай моладзі была зладжаная пратэстная акцыя-хэпэнінг "Сьмяротнае пакараньне Беларускай Назалежнасьці", якое мела мэтаю прыцягнуць увагу амэрыканскай грамадзкасьці да пагрозы сувэрэнітэту і незалежнасьці Беларусі, і таксама выказвала асуджаньне бязьдзейнасьці ды абыякавасьці Эўразьвязу да мажлівага паглынаньня Беларусі Расеяй. Падчас хэпэнінгу на імправізаванай шыбеніцы кат у масцы і саколцы з надпісам "Russia" падвесіў жаночы манекен, апрануты ў беларускі нацыянальны строй, з надпісам "Belarusan Independence". Побач на ходніку сядзелі тры постаці са сьцяжкамі Эўразьвязу і маскамі малпаў, зь якіх адна затыкала сабе вушы, другая закрывала вочы, а трэцяя – закрывала рукою рот. Гэта сымбалізавала рэакцыю Эўразьвязу на пагрозу Беларусі. Іншыя ўдзельнікі акцыі трымалі расьцяжку з надпісам "Integration with Russia = Death of Belarusan Sovereignty. We need your support NOW!" Удзельнікі акцыі скандавалі "Жыве Беларусь!"

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Стыгма несамабытнасьці

Татуіроўкі не прыйшлі да нас, як многія лічаць, праз капітана Джэймса Кука ад дзікіх народаў Палінэзіі. Аднак у сапраўднасьці найбольш старажытныя практыкі татуяваньня знаходзім у Інданэзіі, Сібіры, Тайляньдзе, сярод індзейцаў Паўночнай Амэрыкі. Наша цывілізацыя таксама ведала іх са старажытнасьці. Пісьмовыя крыніцы грэкаў з 5 ст. д. н. э. сьведчаць, што татуіроўкамі каралі рабоў, бандытаў і ваеннапалонных. Больш за тое, грэцкае слова “стыгма”, на працягу стагодзьдзяў адносілася менавіта да татуіровак як у грэцкай так і на лаціне. Гэта азначае, што дэкаратыўнае выкарыстаньне татуяваньня ўспрымалася крайне адмоўна. У прынцыпе, такое ж стаўленьне захавалася ў культуры беларусаў. Дробныя татуіроўкі засталіся даменаю салдатаў і маракоў, а больш складаныя і масіўныя заўсёды належалі да “зэкаўскай” субкультуры.




У Амэрыцы, падобна, татуіроўкі выкарыстоўваліся маракамі ў пэрыяд пасьля Амэрыканскай рэвалюцыі ў якасьці своесаблівага пашпарту. Зрэшты, як і іншыя характэрныя пазнакі на целе, якія ўносяцца ў асабістую папку крымінальнікаў і вайскоўцаў. Першы вядомы амэрыканскі татуірыст татуіраваў жаўнераў з абодвух бакоў Грамадзянскай вайны ў ЗША. Першымі жанчынамі з татуіроўкамі былі цыркавыя жанчыны ў канцы 19 ст.

Вядома ж, што наш час – гэта эпоха перавяртаньня. На Захадзе кішыць ад татуіровачных салёнаў, а татуіроўкі ў кожнага першага стрэчнага. Калі яшчэ гадоў 30-50 таму яны мелі выражаць арыгінальнасьць, то што яны выражаюць у наш час? У наш час так лёгка быць арыгінальным. Дастаткова ня гнацца за астатнімі.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| Ю. Акуліч | 60 |
| В. Біліда | 60 |
| Д. Біліда | 60 |
| П. Богдан | 60 |
| М. Васілевіч | 60 |
| А. Мазуркевіч | 60 |
| В. Мірончак | 60 |
| Я. Пятроўскі | 60 |
| В. Савінскі | 60 |
| П. Скапец | 60 |
| М. Станішэўская | 60 |
| В. Фядотава | 60 |

Усім шчыры дзякуй!

### Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.*

Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах.

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца ў суботу **11-га студзеня 2020 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынку **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Ю. Акуліч | 30 |
| В. Біліда | 30 |
| П. Богдан | 30 |
| М. Васілевіч | 30 |
| А. Курушка | 30 |
| А. Мазуркевіч | 30 |
| В. Мірончак | 30 |
| Я. Пятроўскі | 30 |
| В. Савінскі | 30 |
| П. Скапец | 30 |
| М. Станішэўская | 30 |
| В. Фядотава | 30 |

Шчыры дзякуй!

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна афарміць на сайце **www.e-krama.com***